


З КАЛЯДАМІ!

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень — 27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

21 снежня 2018 года №51 (1234)








# Гандляры з «Модуля» могуць пазбавіцца сваіх месцаў

старонка 2

Фота Таццяны КАСЬЯН.

ISSN 1991–7155




Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



ТЭМА НУМАРА

# Гандляры з «Модуля» могуць пазбавіцца сваіх месцаў

## Яны сцвярджаюць, што рашэнне арэндадаўцы было нечаканым

**Прадстаўнік арэндадаўцы прадпрымальніка Віктара Вайцяшонка гаворыць, што ў прыбудове да гандлёвага цэнтра, дзе раней працавала «Карона», плануюць адкрыць новы магазін.**

МАЛАДЗЕЧНА

Некаторым арандатарам з гандлёвых радоў над былой «Каронай» прапанавалі пераехаць на «Модуль».

Прычына нібыта ў тым, што ў новы корпус прыходзіць буйны магазін з нізкімі цэнамі на адзенне і абутак. Гандлёвыя рады на «старым» «Модулі» працуюць ужо шмат год, а на прыбудове над «Каронай» адчыніліся каля года таму.

Прадпрымальніцы **Вользе Рамановіч** патэлефанавалі з адміністрацыі арэндадаўцы 13 снежня, паведамілі, што скасоўваюць дагавор. У жанчыны трое дзяцей, старэйшыя платна вучацца, малодшаму пяць гадоў. Ёсць крэдыт на кватэру.

> **– Пытаюся, чаму скасоўваюць. Кажуць, у аднабаковым парадку. І ўсё.**

**Святлана Чамянцова** прадае мужчынскае адзенне.

– Жыву адна, ніякай апоры. Мне 56 гадоў, куды пайсці? Крыўдна і балюча, у новым корпусе «Модуля» такія ж беларускія ІПэшнікі, чаму іх ставяць на нашы косці? Мне прапанавалі іншае месца на «Модулі», пытаюся, што стане з папярэднікам. Кажуць, мы яму заяву аб скасаванні арэнды занясём, у яго яшчэ адзін пункт ёсць. Як я буду суседзям у вочы глядзець? *(Заўвага «РГ»: праз пару гадзін пасля размовы жанчыне вусна паабяцалі захаваць арэндны пункт за ёй).*

**Таццяна Ладачкіна** на «Модулі» прадае жаночае адзенне.

– Нас проста выганяюць на вуліцу. Хто мяне возьме на працу за два гады да пенсіі? Я прадпрымальнік. Уявіце, сабраць тавар і сысці. Вось толькі куды? Прадаю цалкам беларускую прадукцыю, а мяне выганяюць. Хадзіла ў іншы гандлёвы цэнтр, там дарагая арэнда. І немагчыма за некалькі дзён размантаваць пункт, зрабіць дакументы.

**Вікторыя Маслава** атрымала дагавор на скасаванне працы 13 снежня. Разам з дачкой **Надзеяй**, якая і з'яўляецца ўладальніцай гандлёвага пункта, Вікторыя прадае на «Модулі» жаночае адзенне і бялізну.

> **– Нам зрабілі «падарунак» на Новы год, выкідваюць на вуліцу без тлумачэння прычын. Гэта адзінае месца, з якога жывём.**

У **Роберта Купчана** беспрацоўная жонка і двое дзяцей, працуе тут 12 гадоў, прадае біжутэрыю. Гэта адзіная крыніца даходу для сям'і.

Прадпрымальніца **Ірына Боўбель** працуе з адкрыцця цэнтра. Прадае ніткі, прылады для вышывання. Гэта адзіны пункт на «Модулі» падобнага кірунку.

– Нядаўна даведаліся. Не ўяўляю, што буду рабіць далей. За гэтыя гады заплаціла больш за 20 тысяч еўра за арэнду.

Яе муж **Дзмітры** таксама ўпэўнены, што сітуацыя несправядлівая. Арэндадаўца можа за месяц папярэдзіць пра скасаванне арэнды, а арандатар павінны за тры.

– Прынеслі дагавор на скасаванне арэнды, далі дзве опцыі, згодна з паперай. З'ехаць можна ці 2, ці 13 студзеня. Мы гандлёвае ўнітарнае прадпрыемства, не плацім адзіны падатак, таму застаёмся да 13 студзеня, – дзеліцца Дзмітры. – Думаю, людзям, якія працуюць у новым корпусе, сказалі прыйсці на «Модуль» і выбраць любое месца.




Адна з прадпрымальніц за гады працы заплаціла за арэнду больш за 20 тысяч еўра.

### Выканкам: нікога не крыўдзіць

17 снежня ў Маладзечанскім райвыканкаме адбылася сустрэча прадпрымальнікаў з намеснікам старшыні райвыканкама **Генадзем Актанаровічам**.

– Вайцяшонку было сказана: усім, хто быў на сустрэчы, даць магчымасць «ушчыльніцца» і працаваць, каб ніхто нікога не пакрыўдзіў. Ён прыняў да ведама. Гэта было рэкамендавана вусна, выканаць цягам двух-трох дзён. Ён сказаў, што будзе над гэтым працаваць, – пракаментаваў Актанаровіч.

Член савета індывідуальных прадпрымальнікаў гандлёвага аб'екта «Модуль» **Дзмітры Запуняка** гаворыць, што гандлярам на 19 снежня новых пунктаў не прапанавалі.

### Гандляроў ці «ўшчыльняюць», ці перасяляюць

Па словах прадстаўніка адміністрацыі арэндадаўцы, нікога з гандляроў «на вуліцу выкідаць» не збіраюцца.

– Тых, хто працуе ў новым корпусе, мы размяшчаем у дзеючых гандлёвым цэнтры. Тых, хто працуе ў дзеючым гандлёвым цэнтры, ці «ўшчыльняем», ці перасяляем. У некаторых арандатараў – два аб'екты. Адзін пакідаем яму, другі аддаём новаму арандатару. Астатнім змяншаем плошчу пункта. Перасяленне закранула нязначную частку арандатараў.

Пытанні, якія ўзнікаюць, вырашаем. Працэс не аднаго дня.

### Могуць адкрыць харчовую гандлёвую сетку

Па словах прадстаўніка адміністрацыі, на сёння ўсе гандлёвыя аб'екты здадзеныя. Свабодных месцаў няма.

– З'яўленне дадатковых гандлёвых аб'ектаў заўсёды сыграе толькі ў плюс. Новы тавар, павялічыцца колькасць прапаноў для пакупнікоў. Для прадаўцоў могуць захавацца працоўныя месцы, з'явяцца новыя.

Цяпер вядуць перамовы з будучымі арандатарамі. Сярод іншага, плануюць адкрыць краму адной з буйных харчовых гандлёвых сетак.

### Праваабаронца: арэндадаўца дзейнічае па законе

Незалежны праваабаронца, прадстаўнік праваабарончай арганізацыі «Беларускі Хельсінскі камітэт» па Маладзечанскім раёне **Эдуард Баланчук** лічыць, што ў дадзеным выпадку арэндадаўцы дзейнічаюць па законе.

– Арэндадаўца мае права заключыць дагавор і назначыць тэрмін арэнды. Калі дзеючы дагавор ён перарывае па сваёй ініцыятыве, павінны выплаціць кампенсацыю ці даць такое ж памяшканне арандатару, калі гэта прапісана ў дагаворы. Але ў дагаворы арандатараў такога няма, таму арэндадаўца дзейнічае па законе. Канешне, проста так выкінуць чалавека – несправядліва. Трэба шукаць рашэнне, якое задавальняе ўсіх.

Каб была прадпрымальніцкая салідарнасць, і 100-200 чалавек стала на бок тых, каму прапанавалі з'ехаць, магчыма, нешта б вырашылася. На мой погляд, дамова складзеная з прыкметамі кабальнасці і працуе на арэндадаўцу, які мае права працягваць яе ці не. Але арандатары самі яе падпісалі. Гэта гаспадарчая справа, і правоў чалавека яна не тычыцца.

**Таццяна КАСЬЯН.**

*Матэрыял створаны ў рамках сумеснай ініцыятывы Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый, CityDog.by, vitebsk4.me, часопіса «Бінокль» і «РГ».*



Фота Modnaya.org.

Калі выбіраеце рэчы, глядзіце не толькі на цэны, але і на якасць.

# Забаранілі прадаваць 204 тавары ў магазінах нізкай цаны

**Спецыялісты маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі правялі маніторынг магазінаў, дзе прадаюць тавары лёгкай прамысловасці па нізкай цане.**

МАЛАДЗЕЧНА

У трох магазінах знайшлі падобныя парушэнні. Гэта неадпаведнасць Тэхнічным рэгламентам Мытнага саюза. А менавіта не было сертыфікатаў ці дэкларацыі адпаведнасці. Не прытрымліваліся патрабаванняў да маркіроўкі тавараў.

Пакупнік павінны атрымаць поўную інфармацыю пра тавар, а яе ці не было, ці была не ўся. Часам інфармацыя ўвогуле была няпраўдзівая. Склад матэрыялу на этыкетцы быў зусім не той, што на самой справе.

Магазінам накіравалі патрабаванні аб забароне прадаваць 204 адзінкі тавару. Кіраўнікам накіравалі патрабаванні выправіць парушэнні. Устанавілі тэрміны, за якія павінны выправіць хібы.

Аднак калі праводзілі маніторынгі яшчэ раз, сустрэлі падобныя парушэнні.

Тры магазіны прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці на агульную суму 294 рублі.

Маладзечанскі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі рэкамендуе спажыўцам звяртаць увагу на якасць і бяспеку тавару, пацікавіцца ў прадаўцоў, ці маюць яны сертыфікат і дэкларацыю адпаведнасці.

Калі вы купляеце тавары лёгкай прамысловасці, звяртайце ўвагу не толькі на знешні выгляд, але ўпэўніцеся, што яны не пашкодзяць здароўю.

**Вольга ЯРАШОНАК, доктар-гігіеніст аддзялення камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

## Як будуць пераносіць рабочыя дні ў 2019 годзе

Урад прыняў рашэнне аб пераносе рабочых дзён у наступным годзе.

Рабочыя дні пераносяцца: 6 мая, панядзелак, – на суботу, 4 мая. 8 мая, серада, пераносіцца на 11 мая, суботу. Адпачываць будзем пяць дзён – 5, 6, 7, 8 і 9 мая.

8 лістапада (пятніца) – на суботу, 16 лістапада. Адпачываць будзем чатыры дні – 7, 8, 9, 10 лістапада.

2 студзеня будзе рабочым днём.

Арганізацыі ў сувязі са спецыфікай вытворчасці могуць даваць іншы парадак пераносаў.

**Паводле Мінстэрства працы і сацабароны.**

## Як будуць працаваць медыцынскія ўстановы на святы

**Графік працы бальнічных арганізацый аховы здароўя:**

22 снежня – па суботнім графіку работы;

23 снежня – па графіку выхаднога дня;

24 снежня – па графіку працоўнага дня;

25 снежня – па графіку работы ў святочны дзень;

29 снежня – па суботнім графіку работы;

30 снежня – па графіку выхаднога дня;

31 снежня – па графіку працоўнага дня.

**Графік працы амбулаторна-паліклінічных арганізацый аховы здароўя, арганізацый пералівання крыві, санітарна-эпідэміялагічных, аптэчных, медыцынскай тэхнікі, адмысловага тыпу і іншых:**

22 снежня – па графіку працоўнага дня;

23 снежня – па графіку выхаднога дня;

24 снежня – па суботнім графіку работы;

25 снежня – па графіку работы ў святочны дзень;

29 снежня – па графіку працоўнага дня;

30 снежня – па графіку выхаднога дня.

31 снежня – па суботнім графіку работы.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя.**







| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 13.12 | 20.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1270 | **2.1304** |
| Еўра | 2.4085 | **2.4272** |
| Злоты, 10 | 5.6073 | **5.6641** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2009 | **3.1726** |
| Грыўня, 100 | 7.6360 | **7.6935** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **12.12** | **19.12** |
| Еўра | 2.3980/2.4200 | **2.4030/2.4250** |
| Долар ЗША | 2.1180/2.1350 | **2.1180/2.1340** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **12.12** | **19.12** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,85** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **14,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,90** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Морква, 1 кг | 0,85 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 4,30 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 4,00 | **5,50** |
| Ананас, 1 кг | 6,00 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,40 | **3,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,00 | **3,00** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,50 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,39 | **1,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |





## Загінулага на пажары гаспадара знайшлі на падлозе

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося раніцай 12 снежня.

Гарэў дом у Маладзечне па вуліцы Уладзіслава Сыракомлі.

Калі прыехалі ратавальнікі, дом гарэў знутры, з-пад даху ішоў дым.

Пажарнага апавяшчальніка ў доме не было. На падлозе знайшлі труп 52-гадовага гаспадара. Мужчына жыў адзін, нідзе не працаваў, курыў.

Агонь пашкодзіў сцены, столь, маёмасць, закураныя сцены.

Мяркуюць, што пажар адбыўся з-за неасцярожнасці падчас курэння, распавяла інспектар групы прапаганды і агітацыі Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат**.

Маладзечанскі ГРАНС нагадвае правілы пажарнай бяспекі:

– неабходна замазаць расколіны на печы;

– коміны трэба прачысціць і адрамантаваць, у межах гарышча патынкаваць і пабяліць;

– нельга выкарыстоўваць для распалу гаручыя вадкасці;

– на драўлянай падлозе перад топкай неабходна прыбіць бляху не менш як 50 на 70 сантыметраў;

– паліць печку можна два-тры разы на дзень і не больш чым па паўтары гадзіны;

– устанавіць пажарны апавяшчальнік.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Выратавалі лася, які праваліўся пад лёд

МЯДЗЕЛ

У нядзелю, 16 снежня, у 13:40 выратавальнікам паступіла паведамленне аб тым, што на возеры Мядзел каля вёскі Валочак лось праваліўся пад лёд.

Калі да месца выкліку прыбылі супрацоўнікі МНС, жывёла знаходзілася ў палонцы ў 50 метрах ад берага і не магла сама выйсці. Супрацоўнікі МНС выратавалі жывёлу, паведамляе прэс-служба ведамства.

Паводле сайта МНС.

## Пажар узнік з-за абагравальніка

АШМЯНЫ

Пра пажар ноччу 15 снежня паведамілі жыхары дома. Гарэла кватэра на вуліцы Савецкай. Агонь пашкодзіў матрац і пасцель. Гаспадар сам выйшаў з кватэры. А спецыялісты выратавалі яго жонку-пенсіянерку.

Жыхароў астатніх кватэр не эвакуявалі. Яны выйшлі самі.

Жанчыну з апёкамі другой ступені і атручэннем чадам забралі ў бальніцу.

Пажар адбыўся з-за кароткага замыкання абагравальніка.

Паводле сайта МНС.

## Следчыя шукаюць відавочцаў сямейных разборак у Чысці

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі РАСК шукае відавочцаў, якія 7 лістапада ў сем раніцы каля дома №2 па вуліцы Багдановіча ў Чысці чулі крыкі аб дапамозе.

Крычаў мужчына, якога падчас бытавога канфлікту параніла нажом былая жонка, патлумачыў карэспандэнту старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

Следчыя просяць відавочцаў здарэння звярнуцца ў Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: **Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 23, кабінет 208** да старшага следчага **Юрыя Багушэвіча** або патэлефанаваць на нумар **8 (0176) 77-24-31**.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Міліцыя шукае сведкаў дзвюх аварый

МАЛАДЗЕЧНА

Калі ў вас ёсць інфармацыя пра гэтыя здарэнні, калі ласка, паведаміце ў дзяржаўтаінспекцыю.

Адна аварыя адбылася 12 лістапада каля 19:30. Невядомы вадзіцель за рулём невядомага аўтамабіля рушыў па Вялікім Гасцінцы.

Рабіў манеўр пры павароце на вуліцу Буйніцкага. Наехаў на 17-гадовага пешахода, які пераходзіў дарогу па рэгулюемым пешаходным пераходзе справа налева па ходу руху аўтамабіля.

12 ліпеня каля 13:10 35-гадовы кіроўца аўто «Фольксваген-Пасат» ехаў па Старым Месце. Ён выконваў манеўр задняга ходу і наехаў на 76-гадовага пешахода. У выніку пешаход атрымаў цялесныя пашкоджанні.

Просім сведкаў і відавочцаў здарэнняў звярнуцца ў аддзел ДАІ па вуліцы Т. Дудко, 1-18 ці па тэлефонах: (80176) 74-53-40, **74-53-43** ці **102**.

Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ.



Фота vsr.mil.by.

За вайсковую часць у Шылавічах, па словах Лукашэнкі, Расія не плаціць.

# Лукашэнка нагадаў пра расійскія базы, за якія Расія не плаціць

## Адна з іх – пад Вілейкай

**Аляксандр Лукашэнка лічыць, што пытанне аб магчымасці стварэння ў Беларусі расійскай авіябазы – непрадуманы піяр-ход. На сустрэчы з расійскімі журналістамі ён расказаў і аб пытаннях у ваеннай сферы.**

ВІЛЕЙКА

Адзначыў, што ў рамках Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі існуе высокі ўзровень інтэграцыі, у тым ліку ў ваеннай галіне. Ён заявіў, што «нікому база не трэба», будаваць яе на старым аэрадроме няма сэнсу, бо час падлёту самалётаў з Расіі ў выпадку неабходнасці – 3-4 хвіліны.

Лукашэнка адзначыў, што ў Беларусі ёсць некалькі баз ВПС: «На любую базу заўтра саджайце 10-20-30 самалётаў. Карыстайцеся».

Ён распавёў, што раней звяртаўся да кіраўніцтва Расіі з просьбай даць дзясятак самалётаў, на што не было адназначнага станоўчага адказу. «НАТА разгарнулася, я кажу – дай мне дзясятак самалётаў. Дорага. Я пытаюся – ты намякаеш, што я павінны купіць за такія грошы? У мяне такіх грошай няма, мне за газ трэба плаціць, крэдыты вяртаць. Шчыра кажучы, ты што, хочаш, каб я купіў аўтамат цябе абараняць? Яны ў цябе на складзе ляжаць, згніюць – да гэтага даходзіць», – распавёў Лукашэнка аб перамовах з Пуціным па ваенных пытаннях.

Прэзідэнт нагадаў, што ў Беларусі ёсць дзве расійскія базы, за якія Расія не плаціць. «Заканчваецца тэрмін дамовы ў 2019-м ці 2020 годзе, і я нават пытання не стаўлю аб аплаце. Нейк няёмка ў расійцаў грошы прасіць за гэтыя базы», – адзначыў ён.

**На тэрыторыі Беларусі дзве расійскія базы – 43 вузел сувязі Ваенна-марскога флоту (ВМФ) Расіі ў Вілейскім раёне, які дзейнічае ад 1964 года, і радыёлакацыйная станцыя (РЛС) «Волга» пад Баранавічамі (дзейнічае ад 2003 года).**

Паводле tut.by.

# Пяць абавязковых парадаў для бацькоў, як зрабіць дарогу дзяцей бяспечнай

МАЛАДЗЕЧНА

**Для прафілактыкі дарожна-транспартных здарэнняў дзяржаўтаінспекцыя ад 13 снежня да 7 студзеня праводзіць комплекс прафілактычных мерапрыемстваў «Бяспечныя канікулы».**

У межах мерапрыемстваў інспектары будуць шукаць і папярэджваць парушэнні правілаў дарожнага руху непаўнагадовымі. Таксама будуць лавіць кіроўцаў, якія парушаюць патрабаванні па перавозцы дзяцей у бусцерах ці дзіцячых аўтакрэслах.

1. Паважаныя бацькі, менавіта вы павінны стаць для дзяцей прыкладам паводзінаў на дарозе. Вы павінны зрабіць усё, каб не дапусціць няшчасных выпадкаў з дзецьмі.

2. Дабіцеся таго, каб дзіця ля дарогі не размаўляла па тэлефоне і не слухала музыку ў навушніках. Гэта моцна адцягвае ўвагу.

3. Перавозьце дзяцей толькі прышпіленымі рамянямі бяспекі, а для маленькіх выкарыстоўвайце спецыяльнае прыстасаванне.

**4. Абавязкова прычапіце флікер на верхняе адзенне і партфель.**

5. Самыя небяспечныя па аварыях перыяды – выхадныя і канікулы. Не дазваляйце дзецям быць без нагляду дарослых.

Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ.





МИНСКЭНЕРГО
МОЛОДЕЧНЕНСКИЕ ЭЛЕКТРОСЕТИ
УНП 100071593

# Хай цяпла і святла хапае ў доме, сям'і і ў душы

## Кіраўніцтва філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга» віншуе супрацоўнікаў з прафесійным святам

**Дзень энергетыка штогод адзначаюць 22 снежня ў Беларусі і ў іншых краінах СНД. Гісторыя свята пачалася 23 мая 1966 года, калі Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб'явілі Дзень энергетыка ў памяць пра дзень прыняцця Дзяржаўнага плана электрыфікацыі Расіі.**



Дырэктар прадпрыемства Павел Гарудка.

У Беларусі Дзень энергетыка стаў афіцыйна прафесійным святам у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 27 лістапада 1995 года.

Гэты дзень – вялікая падзея для тых, каму святло і цяпло – не проста знаёмыя словы, а цэлае жыццё.

Мільёны лямпачак па ўсёй краіне свецяць нам кожны дзень, дзякуючы нястомнай працы і высокаму прафесіяналізму работнікаў Беларускай энергасістэмы. Праца энергетыка патрабуе велізарнай уважлівасці і адказнасці. Бо менавіта ад іх залежыць стабільная і дакладная дзейнасць не толькі прамысловасці, сельскай гаспадаркі, іншых сфер эканомікі, але і сацыяльнай сферы – бальніц, паліклінік, школ, дзіцячых садкоў, камфорт і дабрабыт жыхароў нашай краіны.

Наша свята прыпадае на канец года і становіцца падставай падвесці вынікі, намеціць планы на будучыню. І з пачуццём гонару я адзначаю, што зроблена вялікая праца па эксплуатацыі і рамонту электрычных станцый, цеплавых і электрычных сетак у дасягненні пастаўленых мэтаў і задач.

### Забяспечваем святлом і цяплом

Сёння філіял «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга» абслугоўвае чатыры адміністрацыйныя раёны – Мядзельскі, Вілейскі, Маладзечанскі і Валожынскі, эксплуатуе 10 714 кіламетраў ліній электраперадач 0,4-330 кВ, 61 падстанцыю 35-330 кВ з усталяванай магутнасцю 1065 МВА, 3253 размеркавальныя падстанцыі 10/0,4кВ, 142,06 кіламетра цеплавых сетак у аднатрубным вылічэнні, у тым ліку магістральных – 48,87 кіламетра (у тым ліку паравых 1,3 кіламетра), квартальных – 93,19 кіламетра (у тым ліку унутрыквартальных 52,97 кіламетра).

Забеспячэнне спажыўцоў гарачай вадой і парай ажыццяўляецца чатырма цеплакрыніцамі – гэта міні-ЦЭЦ і кацельня №2 г.Маладзечна, Вілейская міні-ЦЭЦ і Лебедзеўская міні-ЦЭЦ. На цеплавытоках устаноўлена 26 адзінак асноўнага цепламеханічнага абсталявання з электрычнай магутнасцю 6,4 МВт і цеплавой 653 Гкал /гадзіну, на якіх выпрацоўваецца ў год каля 30 мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі і адпускаецца каля шасцісот тысяч Гкал цеплаэнергіі для якаснага і бесперабойнага цеплазабеспячэння спажыўцоў Маладзечна і Вілейкі.

Для павышэння надзейнасці сістэмы цэнтралізаванага цеплазабеспячэння ў горадзе Маладзечне ў бягучым годзе рэканструявалі 12 участкаў размеркавальных цеплавых сетак агульнай працягласцю 7,2 кіламетра (у аднатрубным вылічэнні).

Для падрыхтоўкі да бягучага асенне-зімовага перыяду цеплакрыніц і цеплавых сетак выканалі ўсе арганізацыйна-тэхнічныя мерапрыемствы, правялі гідраўлічную апрасоўку для выяўлення магчымых пашкоджанняў і вызначэння слабых месцаў цепламеханічнага абсталявання, з мэтай ліквідавацыі да пачатку ацяпляльнага сезона ўсіх пашкоджанняў і правядзення добраўпарадкавання. У выніку філіял атрымаў пашпарт гатоўнасці да работы ў асенне-зімовы перыяд 2018/19 года.

**За ўвесь мінулы перыяд 2018 года энергазабеспячэнне прамысловага, сельскагаспадарчага комплексаў і бытавога сектара было бесперабойным і з належнай якасцю, без аварыйных і надзвычайных сітуацый.**

### Далучыліся да будаўніцтва Беларускай АЭС

Для калектыву заўсёды галоўным у рабоце было і застаецца надзейнае і бесперабойнае энергазабеспячэнне кожнага дома і прадпрыемстваў, павышэнне якасці і даступнасці паслуг электра- і цеплазабеспячэння для насельніцтва, праца на канчатковы вынік для стварэння максімальна камфортных умоў для фізічных і юрыдычных асоб з эканомным і рацыянальным выкарыстаннем паліўна-энергетычных і матэрыяльных рэсурсаў у строгім выкананні Дырэктывы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 чэрвеня 2007 №3 «Аб прыярытэтных кірунках умацавання эканамічнай бяспекі дзяржавы».

І сёння персанал з высокім пачуццём абавязку і адказнасці выконвае пастаўленыя задачы. На высокім узроўні працоўная і выканальніцкая дысцыпліна, нормы і правілы аховы працы на рабочых месцах, падтрыманне пастаяннага парадку на тэрыторыях і аб'ектах філіяла.



Георгі Кавалеўскі, машыніст катлоў міні-ЦЭЦ г.Маладзечна.



Яўген Бажко, электраманцёр па рамонце паветраных ЛЭП.

Акрамя таго, для філіяла мінулы год адзначаны ўводам у працу ўсіх пускавых комплексаў па выкананні дзяржаўнай праграмы будаўніцтва і рэканструкцыі ВЛ 110-330 кВ у рамках праекта «Будаўніцтва АЭС у Рэспубліцы Беларусь. Выдача магутнасці і сувязь з энергасістэмай».

### Няма такіх сітуацый, з якімі б мы не справіліся разам

Сёння ў Маладзечанскіх электрычных сетках працуе 1362 чалавекі.

Я ўпэўнены, што гэта сапраўдныя прафесіяналы, людзі, якія маюць высокую кваліфікацыю, адданыя сваёй справе, здольныя вырашаць няпростыя задачы. Няма такіх сітуацый, з якімі мы не справіліся б разам.

Дазвольце выказаць вам сваю шчырую павагу і падзякаваць за стойкасць і мужнасць, высокі прафесіяналізм і вернасць нашай агульнай справе.

Хочацца пажадаць у прафесійнае свята, дарагія нашы энергетыкі, каб цяпла і святла хапала і ў вашым доме. Міру і дабра вам і вашым блізкім.

Сваё прафесійнае свята многія сустрэнуць на працоўных месцах, бо надзейнае энергазабеспячэнне было і застаецца галоўным у нашай працы.

Асаблівых слоў падзякі заслугоўваюць ветэраны энергетычнай галіны. Яны шмат гадоў заставаліся адданымі абранай прафесіі і сёння працягваюць перадаваць свой багаты досвед і глыбокія веды маладому пакаленню спецыялістаў.

Ад імя калектыву філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга» віншую ўсіх, хто адзначае сваё прафесійнае свята, з Днём энергетыка!

Жадаю Вам надзейнай, стабільнай і безаварыйнай працы, жыццёвага аптымізму, моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх пачынаннях і нязгаснай энергіі, выдатнага настрою, шчасця і дабрабыту!

Адначасова хачу павіншаваць усіх вас з надыходзячымі святамі Новага года і Раства Хрыстова.

**Павел Гарудка, дырэктар філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга».**

# Топ-5 самых крэатыўных ёлак Маладзечна



1 месца. Самая крэатыўная і стваральная ёлка @mamasita.by.



2 месца. Самая кранальная ёлка @wow.vika.by.



3 месца. Самая нечаканая ёлка @prushkovskiialeksandr.



4 месца. Самая смачная ёлка @glamor_bride.



5 месца. Самая мінімалістычная ёлка @aromatanya.

**Маладзечанцы ўжо пачалі ўпрыгожваць сваё жытло да Калядаў і Новага года.**

Вокны ўпрыгожваюць выцінанкі і маляваныя святочныя персанажы. У цёмны час рознакаляровымі агеньчыкамі цешаць гірлянды. І вядома, на вуліцах і ў кватэрах Маладзечна з'явіліся разнастайныя святочныя ялінкі, адна больш крэатыўная за другую.

Дзе ж пахваліцца імі, такімі незвычайнымі? Ну, вядома, у Інстаграме. Мы сабралі топ-5 самых арыгінальных ялінак Маладзечна і прапануем іх вашай увазе. Хай гэтыя дрэўцы зробяць ваш настрой святочным і заахвоцяць упрыгожыць сваю кватэру, калі вы яшчэ пакуль не зрабілі гэтага.

Калі ваша ёлка не менш цікавая і незвычайная, але не трапіла ў топ, дасылайце фота на пошту **regionnews@rh.by** з пазнакай «Крэатыўная ёлка». І мы абавязкова пакажам вашу прыгажуню на нашым сайце **rh.by!**

**Аддзел інфармацыі.**

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**У вас ёсць магчымасць зрабіць прыемнае родным і блізкім – размясціць віншаванне на старонках нашай газеты!**

Кошт – ад 2,50 рубля.

**Наш адрас:** г. Маладзечна, вул. Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ «Тройка»)

**Тэл.** (8-0176) **53-78-04**
(8-029) **676-84-20**
(8-029) **573-28-47**



# Без карпа – няма сапраўднага свята

**У Беларусі запечаны або фаршыраваны карп лічыцца адной з самых галоўных калядных і навагодніх страў. І няважна, з'яўляецца сям'я рэлігійнай ці не. Карп – не толькі традыцыйная страва, але і надзвычай смачная, калі яго гатаваць з любоўю.**

Піша Пётр НАВАСЁЛАК.

Спрадвеку карп з'яўляўся на стале беларусаў пасля каляднага паста сярод доўгачаканага скаромнага: паляндвіц, кілбас, яечні. І ўсё адно заставаўся галоўнай стравай. Падавалі карпа і на сталы ў яўрэйскіх сем'ях ва ўсіх беларускіх гарадах і мястэчках.

У савецкія часы карп стаў галоўнай прамысловай прэснаводнай рыбай. Пад карпа былі пабудаваныя дзясяткі рыбгасаў. У тым ліку і ў нашым Павіллі. Людзі старэйшага пакалення памятаюць доўгія чэргі па карпа ля прадуктовых крамаў і на базарах.

Сёння карп перастаў быць дэфіцытам, але не страціў сваёй прывабнасці. З кожным новым кулінарным рэцэптам мы адкрываем у ім невядомыя нам раней смакавыя уласцівасці гэтай цудоўнай рыбы.

Даведка «РГ». Карп (Cypriuns carpio) – прэснаводная рыба сямейства Cyprinade, акультураная форма сазана.

### Цікавыя факты пра карпа

Амерыканцы не ўжываюць карпа з-за мноства касцей. На чыкагскім канале супраць карпа пабудаваныя спецыяльны электрычны бар'ер, каб рыба не трапіла ў Вялікія азёры і не выцесніла іншую прамысловую рыбу.

Жыве да 30-35 гадоў, рост спыняецца ў 7-8.

Сустракаюцца экзэмпляры вагой да 20 і больш кілаграмаў і даўжынёй звыш 1 метра.

Важакі рыбных статкаў пасылаюць супляменнікам ў выпадку небяспекі акустычны сігнал: серыю траскучых гукаў.

### Чаму карп карысны

Карп багаты на мінералы і вітаміны – В12, РР, фосфар, серу, цынк, ёд, хром, кобальт. Ён карысны для мозга, шчытападобнай залозы, скуры і слізістых абалонак, нервовай і стрававальнай сістэм, рэгулюе цукар у крыві. Карп утрымлівае фосфар, які ўдзельнічае ў пабудове шматлікіх ферментаў для нашых касцей.

### Карп на стале. Рэцэпты

Старайцеся купляць карпа жывым, са спецыяльнага акварыума ці ёмістасці, дзе ён мае дастатковую свабоду перамяшчэння і па мажлівасці перад тым, як яго прыгатаваць. Лягчэйшы ў раздзелцы так званы люстраны карп, у ім мала лускі і менш касцей.

Я раю вам купляць карпа вагой ад 1 кілаграма 200 грамаў да 1 кілаграма 800 грамаў. Такога памеру рыбіны не маленькія і з імі добра працаваць. Хаця нічога не маю супраць і большых рыбін. Але чым яна большая, тым больш складана пад яе знайсці кухоннае начынне.

Мякаць у карпа ў меру салодкая, дастатова тлустая.

Чысцячы, пазбягайце разразання жоўцевага пузыра. Разлітая жоўць надасць рыбе горкі смак. Калі ж жоўць усё ж разлілася, неадкладна змыйце яе і залітае месца добра пратрыце буйной соллю.

### Карп па-сялянску

**Склад.** Карп, алей, цыбуля, свежыя грыбы (напрыклад, шампіньёны), грэцкая каша (3/4 шклянкі), аўсяныя («Геркулес») ці пшанічныя шматкі, масла, прыправы: соль, перац.

**Прыгатаванне.** Выпатрашанага карпа націраем соллю і пакідаем на ноч. На невялікай колькасці алею смажым цыбулю і грыбы. Дадаём звараную сыпкую грэцкую кашу. Прыпраўляем фарш соллю і перцам. Фаршыруем ім рыбу, сшываем, робім акуратненькія папярочныя надрэзы. Абсыпаем шматкамі і кладзём маленькі кавалачак масла на рыбу. Запякаем у духоўцы каля 45 хвілін пры тэмпературы 180 градусаў. Найлепш падаваць цёплым з гарнірам з запечанай бульбы, пасыпанай свежым кропам.

### Карп па-яўрэйску ад цёткі Фрыды

**Склад.** Філе з карпа, жоўты сыр, разынкі, 25%-я смятана, пшанічная мука, лімон, малако, алей, міндальныя шматкі (пажадана, не абавязкова), прыправы: соль, перац.

**Прыгатаванне.** Філе замочваем на ноч у малацэ. На наступны дзень зліваем малако і высушваем філе папяровым ручніком, пасыпаем соллю і перцам, пырскаем лімонным сокам. Філе абкачваем у муцэ і смажым на разагрэтым алеі. Падсмажанага карпа кладзём на тэрмічнаўстойлівы посуд, пасыпаем надзёртым жоўтым сырам і папярэдне распаранымі разынкамі, заліваем смятанай і ставім у разагрэтую да 190 градусаў духоўку прыкладна на 15 хвілін. Пад заканчэнне пасыпаем міндальнымі шматкамі.

Падаецца са скрылёчкамі лімона. Можна сервіраваць запечанай бульбай з кропам, пятрушкай і іншымі духмянымі травамі і часнаком. •





# Як атрымаць правы хутка і спакойна

**Адзін маладзечанец прыходзіў у Маладзечанскае ДАІ здаваць тэорыю 10 разоў, 52 разы – кіраванне. Правы так і не атрымаў – не хапіла цярпення.**

Піша Эмілія ХВОЯ.

Каб ваш шлях да пасведчання кіроўцы быў больш паспяховым, мы сабралі рэкамендацыі тых, хто прымае экзамены. Што неабходна ведаць будучым кіроўцам, расказаў намеснік начальніка АДАІ Маладзечанскага РАУС **Уладзімір Мумрыкаў** і вядучы спецыяліст па прыёме экзаменаў **Ігар Міхайлаў**.

Маладзечанскі міжраённы рэгістрацыйна-экзаменацыйны аддзел ДАІ абслугоўвае Маладзечанскі, Вілейскі, Мядзельскі і Валожынскі раёны. Вучыцца можна ў любой аўташколе краіны. А здаваць экзамен – ці ў горадзе, дзе вучыліся, ці па месцы жыхарства.

У гэтых раёнах на катэгорыю «В» рыхтуюць 13 аўташкол. Сярод іх ёсць дзяржаўныя і прыватныя.

### Якіх памылак трэба пазбягаць, каб стаць кіроўцам

Звычайна сярод выпускнікоў аўташкол не ўсе даходзяць да дзяржаўтаінспекцыі. Спачатку неабходна здаць унутраны экзамен – як тэарэтычны, так і кіраванне. Пакуль не здадуць, сертыфікат аб заканчэнні курсаў не атрымаюць.

Калі ж чалавек атрымаў пасведчанне аб заканчэнні аўташколы, ён можа прыйсці здаваць на правы ў ДАІ цягам 10 год. Столькі часу ў інспекцыі захоўваюць спісы груп, якія выпусцілі ўстановы. Пасля гэтага тэрміну неабходна прынесіць даведкі, што сапраўды прайшлі навучанне. Паўторна вучыцца не трэба.

Вучыць кіраваць машынай можна толькі на закрытых пляцоўках і можа чалавек, які мае стаж больш за два гады.

### ДАІ пра стэрэатыпы аб жанчынах-кіроўцах

Ніякіх адрозненняў у тым, як здаюць экзамены мужчыны і жанчыны, супрацоўнікі ДАІ не бачаць. Тут не пацвярджаюцца стэрэатыпы пра недарэчнасці, калі за рулём жанчыны.

Хіба што ў групах апошнім часам больш жанчын. Радзей сустракаецца, што сяброўка прыйшла вучыцца за кампанію – прыходзяць тыя, каму самім патрэбныя правы.

Многія прыходзяць адразу ў 18 год, як толькі можна атрымліваць правы. Нярэдка прыходзяць людзі ва ўзросце. Адна актыўная маладзечанка атрымала пасведчанне кіроўцы, калі было каля 80 год.

### Як рыхтавацца да экзаменаў у ДАІ

Каб экзамен прайшоў паспяхова, павінна быць нармальная працоўная абстаноўка. Экзамен запісваюць на відэа. Перад пачаткам экзаменацыйнікі атрымліваюць падрабязны інструктаж.

– Ніколі не павышаем голас, такое не прынята, – расказвае Ігар Міхайлаў. – Першыя тры спробы і тэорыі, і практыкі здаць можна праз шэсць дзён, не ўлічваючы дзень экзамену. Усе астатнія спробы ідуць праз 30 дзён.

У Маладзечне тэарэтычны экзамен прымаюць у аддзеле ДАІ па вуліцы Дудко, 1.

Практычны экзамен прымаюць на двух аўтадромах. Па Віленскай, 64 прымаюць па аўторках, чацвяргах і суботах. Ад 8 да 9 гадзін – рэгістрацыя ахвотных. Па Мічурына, 32 праходзіць экзамен па серадах і пятніцах. Рэгістрацыя таксама ад 8 да 9.

Спачатку правяраюць аўтадром. З чатырох элементаў кандыдат выконвае два – горка, паркоўка, заезд задам у бокс або разварот у абмежаванай прасторы. На кожнае практыкаванне даюць тры хвіліны – часу больш, чым дастаткова. На кожнае практыкаванне ёсць дзве спробы.

Больш за ўсё на экзамене перашкаджае хваляванне. Кандыдат павінны паказаць, што ўмее карыстацца «органамі» кіравання аўтамабіля, трымацца правілаў дарожнага руху, ездзіць бяспечна.

### Самыя частыя памылкі кандыдата ў кіроўцы

Маршруты на экзамене павінны быць не менш за чатыры кіламетры. Іх различылі такім чынам, каб як мага лепш праверыць уменні кандыдата. Сярод элементаў – два левыя павароты, разварот, паварот направа, праезд скрыжаванняў, аўтобусных прыпынкаў, пешаходных пераходаў.

Многія спрабуюць крануцца на ручніку. Не зняўшы машыну з ручніка, пачынаюць рух. Гэта прыводзіць да спынення рухавіка, а кандыдат губляецца.

Пры заездзе ў бокс на аўтадроме многія не трапляюць і ўязджаюць у стойкі абмежавальнікаў.

На горцы скідваюць счапленне, з-за чаго спыняецца рухавік. Часам спяшаюцца, і з-за гэтага атрымліваюцца памылкі.

Ігар Міхайлаў расказвае, як аднойчы на экзамен садзіцца ў машыну кандыдат. Машына не заведзеная, але працуе печка. Кандыдат уключае першую перадачу, падымае счапленне, дадае газу і пытаецца, а чаго не едзе. Завесці паспрабуйце.

Пры павароце налева многія не даязджаюць да цэнтра, спяшаюцца як мага хутчэй праскочыць. Часам нават выязджаюць на сустрэчку. Бывае, не трымаюць дыстанцыю, не прапускаюць пешаходаў.

Яшчэ адна памылка сустракаецца і сярод дасведчаных кіроўцаў. Чатырохпалосная дарога, пешаходны пераход. У правым шэрагу стаіць машына. Варта задумацца – чаго ж тая машына стаіць. Відавочна, што там ідзе пешаход. Таму трэба не ляцець, а таксама спыніцца і прапусціць.

Падчас экзамену дапускаюцца два парушэнні. •







**Для паступлення ў аўташколу на катэгорыю «В» вам трэба:**

• фота 3х4
• пашпарт
• вадзіцельская медыцынская даведка.

З вамі заключаць дамову, раскажуць пра парадак аплаты. Сярэдняя цана складае каля 550 рублёў плюс каля 80 на паліва. Звычайна выплаты дзеляць на тры часткі. 200 рублёў плацяць перад першымі заняткамі.




Заставайцеся з намі і ў наступным годзе!

# Пра што мы пісалі ў 2018 годзе

**Напрыканцы года прынята падводзіць вынікі. Што можам узгадаць мы? Ну, канешне, тое, пра што пісала «Рэгіянальная газета» ў 2018.**

У першым нумары аб'явілі Асобу года-2017. Імі сталі гаспадары прытулку для сабак на Валожыншчыне **Алена** і **Ігар Крэйнісы**.

У студзені ў рэдакцыі зладзілі круглы стол па экалогіі. Прыехалі ўдзельнікі з Мінска, Астравеччыны, Вілейшчыны.

Працягваліся суды па справе **Вікторыі Папчэні** – маладзечанскай школьніцы, што загінула на бульбе. У канцы студзеня 2018 года суд вынес рашэнне па іску бацькі дзяўчынкі **Алега Папчэні**. Згодна з ім, маральную шкоду бацькам выплацілі гаспадарка «Хоўхлава» і школа №11, дзе вучылася Вікторыя.

Віляйчанка **Жанна Вярбіцкая** распавяла чытачам, як даведалася пра анкалагічную хваробу і як змагалася з ёй.

У лютым памёр **Барыс Кіт** – найпершы ў свеце беларус, дзякуючы якому амерыканцы паляцелі на Месяц. Мы прыгадалі сем фактаў пра Барыса Кіта, а ўраджэнец Вілейкі **Сяргей Макарэвіч** расказаў пра тое, як сустракаўся з вядомым беларусам у Германіі. Былі і яшчэ сумныя навіны – у сакавіку памёр журналіст ураджэнец Мядзельшчыны **Міхась Чарняўскі**, у чэрвені – ураджэнец Смаргоншчыны, літаратуразнаўца і фалькларыст **Арсень Ліс**.

### Пра гендар і тэатральныя прэм'еры

Перад чарговымі выбарамі ў дэпутаты рэдакцыя зладзіла чарговы круглы стол. Запрасілі і тых, хто быў дэпутатам, і тых, хто балатуецца. Прыйшлі да высновы, што дэпутатаў многія па-ранейшаму выбіраюць па касцюме і думаюць, што ён ідзе красці.

У Мінскім абласным драмтэатры адбылася прэм'ера новага мастацкага кіраўніка **Валерыя Анісенкі**. Карэспандэнты рэдакцыі паглядзелі пастаўленую ім п'есу «Дырыжор». Яшчэ адна гучная прэм'ера тэатра – спектакль «Час Сэканд Хэнд» па кнізе **Святланы Алексіевіч**.

Яшчэ, нягледзячы на халоднае надвор'е ў пачатку сакавіка, мы наведаліся ў Мінск на чарговую Міжнародную кніжную выставу і расказалі чытачам пра незвычайныя кніжкі. У рэдакцыі абмеркавалі гендарныя праблемы са шведскім экспертам медыяінстытута Fojo **Жазэфінай Якабсан**. Наша чытачка з Вілейкі **Наталля Краўчанка** выказала ўласную думку наконт праблемы гендара ў артыкуле «Не хачу ўнісэкса ні ў журналістыцы, ні на працы, ні дома». Як не сварыцца з суседзямі, разважалі на круглым стале ў сакавіку. Выступалі міліцыянеры, прадстаўнікі санстанцыі і ЖКГ.

Карэспандэнт **Аксана Ярашонак** наведала выставу вілейскага мастака **Эдуарда Мацюшонка**, якая называлася «Дома». Большасць твораў мастак прысвяціў вядомым родам з Вілейшчыны, Навагрудчыны, Глыбоччыны.

### З сям'і ў Радашкавічах забралі дзевяць дзяцей

«Рэгіянальная газета» ладзіла праект «Простыя рэчы». У публікацыях мы распавядалі пра людзей, якія карыстаюцца прадметамі, што даўно ўжо маглі б стаць музейнымі экспанатамі: небяспечнай брытвай, самаварам на вугаллі, старым даваенным ліхтарыкам, сячкарняй.

Пасля трагедыі ў Кемераве журналісты «Рэгіянальнай газеты» пагутарылі з прадстаўнікамі МНС і адміністрацыяй дзіцячых цэнтраў і даведаліся, што яны робяць, каб падобная трагедыя не паўтарылася ў рэгіёне.

У сям'і з Радашкавічаў забралі дзевяць дзяцей. Тады, у красавіку, мы пагутарылі з іх мамай, сацыяльнымі службамі, педагогамі. Сёння ўсе дзеці вернутыя ў сям'ю.

З маладзечанцамі сустрэўся паэт і грамадскі дзеяч ураджэнец Смаргоншчыны **Уладзімір Няклеяў**.

Навучэнец Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Іван Літвіновіч** стаў чэмпіёнам Еўропы па скачках на батуце. Таксама мы сачылі за выступленнем Івана на юнацкіх алімпійскіх гульнях у Аргенціне. Там віляйчанін заняў чацвертае месца.

### Гайда ў аптэкарскі сад

Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» наведала аптэкарскі сад на Мядзельшчыне. А каб чытачам таксама захацелася з'ездзіць туды, Зоя Хруцкая апісала 12 спраў, якія варта зрабіць у аптэкарскім садзе.

У маі пачалі судовы працэс супраць забойцаў бізнесмена **Андрэя Касяка**, ураджэнца Вілейкі. Нашы карэспандэнты сачылі за судовымі пасяджэннямі, гутарылі са сваякамі забітага, цела якога міліцыя не магла знайсці ад 2016 года. І толькі сёлета ў лістападзе цела Андрэя Касяка знайшлі і пахавалі ў Касуце на Вілейшчыне.

Пра сваё дзяцінства, сям'ю і творчасць «Рэгіянальнай газеце» расказаў мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя Жыновіча, ураджэнец Вілейшчыны **Міхаіл Казінец**.

У маі пачаўся ажыятаж з запісам у гімназіі. У рэгіёне гэта было асабліва адчувальна ў Маладзечне. Адна з мамаў будучай першакласніцы расказала нам, як з тэрмасам і пледам сядзела ноччу пад гімназіяй, каб дачку ўзялі туды вучыцца. Сядзела нездарма. Сёння дзяўчынка вучыцца там.

Журналістка **Аляксандра Парахня** пагутарыла з маладзечанкай **Валянцінай Варанюк**, у якой два сыны сталі манахамі.

### Курапаты і «Адна зямля»

Чым небяспечныя для малых дзяцей хадуны і самакаты, чытачам расказаў дзіцячы траўматолаг **Аляксандр Запрудскі**. А маладзечанец **Ягор Мышук** расказаў, як адзін гадуе трохгадовага сына Давіда пасля таго, як яго жонка памерла ў маладзечанскай радзільні.

Фестываль «Адна зямля» прайшоў у дванаццаты раз. Сёлета яго праводзілі ў Вілейцы. Перамог **Вадзім Авіжыч** з Ашмянаў.

Віляйчане паўдзельнічалі ў акцыі абароны Курапатаў. На беразе Вілейскага вадасховішча за грошы Еўрасаюза ў другі раз правялі «Юшкафэст».

Археолагі працягнулі вывучаць рэгіён. Ладзілі раскопкі ў Крэве, Ілы, Нясцёрках, Наўрах. У некаторых месцах з археолагамі капалі і нашы журналісты.

На Маладзечаншчыне, каля закінутага завода ў Турэц-Баярах, здымалі фільм «Чарнобыль».

### Пра буру на Вілейшчыне і кадравыя перамены

Пятага жніўня па Вілейшчыне пранеслася бура. Паламала дрэвы, раскідала лодкі і катары на вадасховішчы.

Упершыню на Вілейшчыне, у Навасадах, актывіст **Алег Куралесаў** правёў фестываль «Дом ля возера».

Адміністрацыя аўтапарка расказала чытачам газеты, чаму гарадскія аўтобусы не прыязджаюць па раскладзе.

Маладзечанскі райвыканкам узначаліў былы старшыня са Стоўбцаў – **Юры Горлаў**. Былі і яшчэ кадравыя змены: начальнік Маладзечанскага РАУС **Валянцін Асіповіч** перайшоў ва Упраўленне ўнутраных спраў Мінаблвыканкама, а крымінальную міліцыю ў Вілейцы ўзначаліў **Дзмітры Сухоцкі** з Маладзечна.

### Ратавалі стары вяз

Таксама мы расказалі чытачам пра 700-гадовы вяз і паўдзельнічалі ў суботніку, каб захаваць унікальнае дрэва. Не маглі прамінуць адкрыццё вуліцы стрыд-фуда ў Маладзечне. Захапіла нашых чытачоў магічная гісторыя кахання маладзечанкі **Таццяны** і канадца **Джона**.

У Арпе на Вілейшчыне даследавалі старажытнае гарадзішча. Пра гэта мы пагутарылі з археолагам **Максімам Чарняўскім**.

Гандлёвы цэнтр «Спадарожнік» прыняў першых арандатараў. Але маладзечанскі рынак па-ранейшаму працуе.

А дапамагалі нам запаўняць старонкі цікавымі матэрыяламі нашы пазаштатныя аўтары – **Аляксандр Камінскі** са Смаргоні, **Алесь Раткевіч** з Чысці, **Вадзім Праўрацкі** з Мядзела, **Юрась Церабун** і **Сяргей Лескець** з Маладзечаншчыны.

Будзьце з намі і ў наступным годзе.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Сёння велічная сядзіба Лейбы Стругача на Ашмяншчыне – у занядбанні.

# У Ашмянах здарыўся вялікі пажар, у Смаргоні адкрылі кіналагічную школу

## Што было ў гады Свінні ў Ашмянах, Астраўцы, Смаргоні

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

**Год Свінні грукае капытамі ў дзверы. У мінулы раз мы прыгадвалі, якія падзеі прыносіла гэта жывёла ў рэгіён у розныя гады ў Маладзечне, Вілейцы, Мядзеле, Валожыне. Сёння ўспомнім, што адбывалася ў гродзенскім куце нашага рэгіёна – Ашмянах, Астраўцы, Смаргоні.**

### 1935

Гродзеншчына, а з ёй і згаданыя гарады ўваходзяць у склад Польшчы. На Ашмяншчыне ў Будзёнаўцы ў родавай сядзібе жывуць сыны тагачаснага прадпрымальніка ўладальніка дражджавога завода **Лейбы Стругача**. Сядзіба была з калонамі, трыма балконамі, тэрасай, з басейнам на двары. Сёння сядзіба – у занядбанні.

Зімой быў вялікі пажар у Гальшанах. Пацярпелі 94 жылыя дамы, у тым ліку школа і пастарунак дзяржаўнай паліцыі, 120 гаспадарчых будынкаў з усім інвентаром і вялікімі запасамі лёну, рукавіц, воўны і збожжа. У полымі згарэлі 15 свіней, конь, пяць кароў і восем авечак. Без дому засталіся 132 сям'і.

### 1947

Першую прадукцыю выпусціла кардонная фабрыка «Альхоўка», што на Астравеччыне. У Смаргоні пачала працаваць раённая бальніца. А бальніца ў Ашмянах за 1947-1948 гады займела рэнтгенаўскі і фізіятэрапеўтычны кабінеты і лабараторыю. Таксама ў Ашмянах адкрылі натарыяльную кантору. Адбылася падзея і ў культурным жыцці Ашмянаў: мясцовы рэжысёр **Аляксей Фамін** стварыў невялікі драматычны калектыў з энтузіястаў-аматараў. Тут жа запрацаваў завод па вырабе сыру.

У Смаргоні зачынілі касцёл Міхаіла Архангела, пабудаваны ў 16 стагоддзі. За савецкім часам там была крама, выставачная зала, музей. Вернікам яго перадалі ў 1990-м.

### 1959

Разбудоўваецца ашмянскі аўтапарк, у 1959-м тут з'явілася новая дыспетчарская кантора. Ашмянскаму драматычнаму калектыву прысвоілі званне народнага.

Запусцілі Рачунскае вадасховішча – самы вялікі штучны вадаём на Смаргоншчыне. Ад гэтага часу на рацэ Ашмянцы пачала працаваць Рачунская ГЭС. У 1970-х прыпынілася, у 2001 зноў пачала працаваць.

Тэрыторыя Астравецкага раёна павялічылася. У яго ўвайшла частка Свірскага.

### 1971

У Солах на Смаргоншчыне нарадзіўся **Аляксандр Кавалеўскі** – майстар спорту СССР, пераможца першынства СССР сярод юнакоў па самба, трохразовы чэмпіён БССР сярод юнакоў.

Летам гэтага года запланавалі запусціць вытворчасць на заводзе «Радыёдэталь» у Астраўцы. Аднак у прызначаны тэрмін не паспелі. Вінаватых звольнілі. А яшчэ ў Астраўцы адкрылі новую сярэднюю школу.

Ад 1971 года ў Ашмянах пачаў працаваць трэнерам па гандболе ўраджэнец горада **Віктар Рамулевіч**. Пазней ён падрыхтуе алімпійскага чэмпіёна па гандболе **Андрэя Барбашынскага**.

### 1983

У Смаргоні з'яўляецца аб'яднанае з некалькіх структур прадпрыемства ЖКГ. А астравецкаму тэатру прысвоілі званне народнага.

### 1995

У Астраўцы зладзілі першыя чытанні, прысвечаныя памяці **Іосіфа Гашкевіча** (1814–1875) – рускага лінгвіста беларускага паходжання, усходазнаўцы, дыпламата. Ён пахаваны ў вёсцы Малі на Астравеччыне.

У студзені на базе Смаргонскага памежнага атрада адкрылі школу па падрыхтоўцы інструктараў службовых сабак. Цяпер гэта кіналагічны цэнтр.

### 2007

У переднавагоднім Астраўцы не склалі ніводнага пратакола па незаконнай высечцы елак перад святам. Маладзевы тэатр «Планіда» ў Смаргоні падрыхтаваў п'есу «Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага».

У заключны этап рэспубліканскага фестывалю «Сярэбраны звон цымбалаў» выйшлі ашмянцы. На Астравеччыне з'явіліся новыя аўтобусныя маршруты. У Ашмянах зарэгістравалі тэмпературны рэкорд: 21 жніўня тут быў 31 градус цяпла, 22 жніўня – 30.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

● КАЛЯНДАР

**21 СНЕЖНЯ**

**1796.** Нарадзіўся **Тамаш Зан** (в. Мясата, цяпер Маладзечанскі раён), удзельнік вызваленчага руху, філамат, прыродазнавец, польскі літаратар.

**1981.** Памёр **Міхась Забэйда-Суміцкі**, спявак, педагог, дзеяч на эміграцыі. Пахаваны на Альшанскіх могілках у Празе (Чэхія).

**22 СНЕЖНЯ**

**1798**. 220 гадоў назад памёр **Джузэпе дэ Сака**, італьянскі дойлід, які працаваў на Віленшчыне і Гродзеншчыне. Ад 1773 года жыў у Гродне, быў прыдворным архітэктарам графа Антонія Тызенгаўза (1774), галоўным архітэктарам па будаўніцтве каралеўскіх мануфактур ВКЛ. Ён – адзін з найлепшых архітэктараў развітога барока і класіцызму, якія працавалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, у 18 стагоддзі – прыдворны архітэктар караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Працаваў у іншых рэгіёнах Рэчы Паспалітай. У яго творчасці вылучаюцца ансамблі палацава-паркавых рэзідэнцый. Найбольш значныя працы: Цёнжэнь у Польшчы, палац Храптовічаў у Шчорсах (не захаваўся), тэатр Тызенгаўза ў Гродне, ансамбль плошчы Тызенгаўза ў Гродне, палац Тызенгаўза ў Гродне (не захаваўся), Паставах, Свяцкі палац магнатаў Валовічаў, Станіславава сядзіба, загарадная рэзідэнцыя караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, цяпер у рысе Гродна, інш. Пахаваны ў Гародне (паводле інш. звестак у сваім маёнтку Дубасня пад Беластокам, цяпер Польшча). Нарадзіўся ў Вероне, Італія, у 1735 годзе.

**2001.** Памёр **Уладзіслаў Чарняўскі**, каталіцкі святар, перакладчык Бібліі і літургічных тэкстаў на беларускую мову.

**24 СНЕЖНЯ**

**1798**. 220 гадоў назад нарадзіўся **Адам Міцкевіч**, польскі паэт, цесна звязаны з Беларуссю, асветнік, філамат.

**1942.** У Трасцянцы пад Мінскам нацыстамі застрэлены **Вінцэнт Гадлеўскі**, рымска-каталіцкі святар, адзін з кіраўнікоў беларускага нацыянальнага супраціўлення.

**25 СНЕЖНЯ.**
**Каляды каталіцкія.**

**1844.** Памёр **Адам Храптовіч**, асветнік, удзельнік паўстання 1794 г., мецэнат. Заснаваў у Шчорсах (цяпер Навагрудскі раён) буйную пачатковую школу.

**27 СНЕЖНЯ.**

**1924.** Памёр **Леў Бакст**, ураджэнец Гародні, парыжскі жывапісец і графік, заканадаўца моды.

Марыя БЕРАСНЕВА.

## Арганізатары расказваюць, як створаць навагоднюю грамадскую прастору ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**29 снежня ў Вілейцы будзе працаваць першая навагодняя грамадская прастора.**

Пра яе стварэнне распавёў адзін з арганізатараў галоўны архітэктар Вілейшчыны **Дзмітры Гарланаў**:

– Мы, арганізатары вілейскіх фестываляў «Энергія маладосці», «Выбірай і рухайся» і іншых моладзевых ініцыятыў, пры падтрымцы Вілейскага райвыканкама, Вілейскага Палаца культуры, гарадскіх арганізацый, прадпрымальнікаў і актывістаў, імкнёмся прынесці на Цэнтральную плошчу горада сапраўднае свята напярэдадні Новага 2019 года.

На думку Дзмітрыя Гарланава, будучыня горада – у тэматычных шматфункцыянальных грамадскіх прасторах, дзе людзі ўсіх узростаў могуць знайсці тое, што падабаецца, збірацца сям'ёй, з сябрамі, знаёміцца, адпачываць і святкаваць.

– Лічым, што будучыня – за супрацоўніцтвам улады, бізнесу і актывістаў, каб рабіць добрыя справы разам, з агульнымі мэтамі, накіраванымі на развіццё гарадскога асяроддзя і мерапрыемстваў, на аб'яднанне жыхароў, – падсумаваў арганізатар.

Нагадаем, што Вілейка ўпершыню арганізоўвае шматфункцыянальную грамадскую прастору «Па дарозе ў Новы год», мэта якой – стварыць святочны настрой напярэдадні Новага года. Паўдзельнічаць у стварэнні прасторы можа кожны ахвотны.

Арганізатары шчыра вітаюць ініцыятывы, якія ствараюць асаблівы антураж свята: бар з цёплым глінтвейнам, караоке з навагоднімі песнямі, конкурсы з падарункамі, запрэжка коней, зімовая рыбалка або нават сапраўдная лазня.

Фантазіі бязмежныя! А можа вы – музычны гурт, вакаліст, дыджэй і хочаце выступіць на сцэне? Арганізатары прасторы просяць адказаць на некалькі пытанняў і з вамі звяжуцца ў бліжэйшы час. Запоўніць заяўку на ўдзел у мерапрыемствах грамадскай прасторы можна ў вілейскіх суполках у сацыяльных сетках.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота my-vengria.ru.

Вянок Адвенту.

# Што такое Адвент у нямецкай традыцыі

**Калядныя традыцыі поўныя сімвалаў, якія не ўсім могуць быць зразумелыя. Таму мы расказваем пра ўсё, што трэба ведаць аб гэтым незвычайным перыядзе года.**

У ноч з 24 на 25 снежня надыходзіць самае любімае і важнае для немцаў свята – Каляды. Але перад яго надыходам ёсць асаблівы час – чатыры тыдні асаблівай атмасферы.

> **Само слова «Адвент» паходзіць ад лацінскага і ў перакладзе значыць «прыбыццё». Гэта час перад нараджэннем Хрыста.**

І чатыры тыдні да свята вуліцы і дамы ўпрыгожаныя гірляндамі, цацкамі і сцэнкамі пра Каляды. Падваконні часта ўпрыгожваюць спецыяльнымі гірляндамі. На іх звычайныя свечкі ці агеньчыкі ў выглядзе свечак расстаўленыя на розных узроўнях. Часта пад самой дугой гірлянды расстаўленыя калядныя сюжэты ці фігуркі, звязаныя з зімой. Працуюць спецыяльныя кірмашы, дзе можна купіць падарункі і пачаставацца гарачым глінтвейнам.

У час Адвенту адной з самых папулярных страў становіцца карп. Гэта рыба падыходзіць для тых, хто трымаецца посту. Даўней у час Адвенту абавязкова прыгадвалі пра памерлых і разважалі аб жыцці і яго хуткасці.

### Колеры Адвенту

Цукеркі, падарункі і калядныя ўпрыгожванні традыцыйна чырвона-зялёнага колераў. Чырвоны колер сімвалізуе кроў, пралітую за людзей.

А зялёны – надзея на тое, што будучыня будзе лепшай, а таксама аберагае ад злых духаў. Менавіта таму навагоднія ўпрыгажэнні багатыя на гэтыя два колеры.

### Што такое каляндар Адвенту

У першы дзень Адвенту дзеці атрымліваюць адмысловыя цукеркі. Цяпер часам такія можна знайсці і ў Беларусі ці прывезці з суседніх краін. У каробцы пранумараваныя дні – ад 1 да 24. За нумарам хаваецца акенца. Калі яго адкрыць, можна ўзяць цукерачку.

Кожны дзень дзіця бярэ новую цукерачку і бачыць, колькі дзён засталося да самай чароўнай ночы года. У некаторых каробках-календарах лічбы дзён размешчаныя па парадку, у іншых – хаатычна, і тады дзіцяці трэба яшчэ адшукаць патрэбны дзень.

> **Раніцай 24 дня Адвенту дзіця есць апошнюю цукерку і бачыць – назаўтра чакаюць падарункі пад ёлкай.**

Такія адвент-календары атрымліваюць не толькі дзеці. Іх раздаюць і кіраўнікі розных фірмаў падначаленым. Асаблівая крута, калі на каробцы такога календара ёсць лагатып кампаніі.

Для падарунка некаторыя робяць такія календары сваімі рукамі. І за акенцамі хаваюць не цукеркі, а падзелкі, маленечкія пажаданні, пячэнні, пакецікі чаю – усё, чаму абрадуецца атрымальнік.

### Адкуль узяўся вянок Адвенту

Яшчэ адзін вядомы сімвал Калядаў – вянок са свечкамі.

Лічыцца, што ўпершыню такі вянок зрабіў святар, які паставіў у храме падсвечнік са старога кола ад воза. У яго сям'і выхоўвалі прыёмных дзяцей з бедных сямей, якія часта пыталіся, ну, колькі ўжо дзён засталося да галоўнага свята. На коле былі чырвоныя маленькія свечкі, якія ўвасаблялі будныя дні да свята. І чатыры белыя свечкі – па адной на кожную нядзелю. Так дзецям было зручна лічыць, таму што кожны дзень запальвалі па яшчэ адно свечцы. І было адразу відаць, колькі яшчэ дзён засталося.

Пасля многія майстравалі вянкі і пакідалі толькі чатыры свечкі – па адной на кожны тыдзень Адвенту. Сучасны вянок робяць звычайна з хвоі, упрыгожваюць шышкамі, банцікамі і іншымі элементамі.

Гэтыя чатыры свечкі маюць сваё значэнне. У першы дзень Адвента запальваюць першую, Свечку Прароцтва. У гэты перыяд у храмах чыталі прароцтвы аб нараджэнні галоўнага героя Калядаў.

У другую нядзелю запальвалі Віфлеемскую свечку. У трэцюю нядзелю агонь павінны крануць Свечку пастухоў. А ў апошнюю нядзелю запальваюць тры папярэднія свечкі і яшчэ адну – Анёльскую.

Напрыклад, у Амерыцы няма традыцыі запальваць свечкі. Там калядны вянок вешаюць на дзверы.

### Галоўнае падрыхтаваць выпечку

Адна з важнейшых задач Адвенту – напячы калядных ласункаў. Многія нават у школах і садках замешваюць цеста для будучых прысмакаў. Гэта традыцыя бярэ пачатак ад Сярэднявечча, калі салодкае звычайныя людзі елі вельмі рэдка.

Напрыканцы посту манахі пяклі пячэнні, а ў першы дзень свята раздавалі салодкае.

Многія дадаюць да цеста імбір і карыцу. Пячэнні часта пасыпаюць макам, арэхавай ці шакаладнай крошкай ці робяць рознакаляровую глазур.

Важна тое, што Адвент – гэта час, калі чакаюць нечага новага і чароўнага і дарослыя, і дзеці, і веруючыя, і многія няверуючыя. Таму столькі ўсяго існуе, каб адчуць дух Калядаў напоўніцу і дапамагчы ў гэтым іншым. Не ляніцеся, акружыце сябе каляднымі сімваламі, і няхай сапраўднае чараўніцтва прыйдзе і ў ваш дом!

**Эмілія ХВОЯ.**



Чароўны лес, які стварылі дзеткі ў смаргонскім садку.



Дзеці разглядаюць кнігі.



Хлопчыкі і дзяўчынкі ствараюць карункавы лес.

# Чаму дзеці ведаюць пра Санта-Клаўса, а пра Зюзю нават не чулі

**Зіхацяць агнямі ёлкі ў групе дзіцячага садка, мігацяць у акенцах таямнічым святлом шматлікія гірлянды, дзеці з нецярпеннем рыхтуюцца да сустрэчы з чараўніком Дзедам Марозам.**

СМАРГОНЬ

Беларускія хлопчыкі і дзяўчынкі, а таксама іх бацькі добра знаёмыя не толькі з Дзедам Марозам, яго ўнучкай Снягуркай, снегавіком-паштавіком, але падрабязна расказваюць і пра Санта-Клаўса, аленя Рудольфа, гномаў і эльфаў, якія дапамагаюць чараўнікам развозіць падарункі. І гэта не дзіва.

І лялькі, і нават штучныя ёлачкі спяваюць калядныя песенькі на англійскай мове. Зусім рэдка, хіба толькі ў старых бабулінах скрынях, сустракаюцца персанажы рускіх казак – Дзяды Марозы ў традыцыйна доўгіх футрах, валёнках, з чароўнымі посахамі. А пра беларускага бога зімы Зюзю многія нават не чулі.

Каб выправіць недарэчнасць, я вырашыла пазнаёміць выхаванцаў з беларускім чараўніком і яго сябрамі, абапіраючыся на кнігу «Чароўны свет» выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

### Хто ж такі Зюзя

Зюзю беларусы з даўніх часоў ведалі як клапатлівага і справядлівага бога зімы. Гэта быў высокі стары ў белым кажуху з белымі валасамі і доўгай барадой. Хадзіў ён па снезе босы, а ў руках заўсёды была жалезная булава. Калі Зюзя бачыў нядбайныя адносіны да сябе ці гаспадаркі, то злосна стукаў булавой аб зямлю ці вугал хаты.

Беларусы з павагай ставіліся да бога зімы і заўсёды стараліся заручыцца яго падтрымкай, каб добра перазімаваць халодную і цяжкую зіму. Падчас калядной сямейнай вячэры сяляне для Зюзі выстаўлялі каля хат пачастунак са словамі: «Зюзя, ідзі куццю з намі есці!» У лясах, палях Зюзя пільна сачыў за зямлёй, раслінамі, звярамі падчас іх зімоўкі.

Зацікавіла выхаванцаў гісторыя пра сваяка Зюзі, яго памагатага Ледзянога дзеда. Гэты персанаж масціў лёдам дарогі, каб сялянам лягчэй было з лесу дровы вазіць, забіраць з балота сена ці пераязджаць праз раку ў суседнюю вёску. А яшчэ Ледзяны дзед вымарожваў паветра, робячы яго чыстым і здаровым. Ледзянога дзеда ў розных частках Беларусі называлі Панам, Марозам Марозавічам, Дзедам Марозам, прыпісваючы яму рознае чарадзейства.

### Як у групе стварылі казку

Не абмінулі ўвагай дапытлівыя дзеці дзіўную міфічную істоту – Гаёвага дзеда і яго ўнучак Гаёвак. Яны жылі ў гаі і клапаціліся пра парадак у ім. Без ведама Гаюна нельга было ссячы і дрэва ў лесе. Калі патрэбныя былі дровы на будоўлю хаты ці для печы, сяляне задобрывалі Гаёвага дзядка, загадзя пакідалі яму ў гаі смачныя пачастункі са словамі: «Гаюн, Гаюн, прымі пачастунак. Ці сам з'ясі, ці ўнучкам аддасі!» Унучкі-гаёўкі амаль увесь год бегалі па лясах, як звычайныя дзяўчаты, а вось на зіму пакрываліся белай поўсцю, зліваючыся са снегам.

Наслухаўшыся дзіўных гісторый, зацікаўленыя малыя выказалі прапановы, як зрабіць міфічных персанажаў. Вырашылі пераапрануць лялек, з якімі ўжо дома не гулялі. З энцыклапедый даведаліся пра асаблівасці адзення і побыт беларусаў, іх адносіны да прыроды, традыцыі калядавання. Потым пашылі адпаведнае адзенне істотам, зрабілі атрыбуты – і ў нашай групе пасялілася сапраўдная казка!

Так з'явіліся не толькі пералічаныя персанажы, але і санкі, запрэжаныя канём, у якіх дзеткі-беларусы едуць у лес на свята. Самастойна стварылі выцінаны лес, па якім блукалі звяры, што не ўпадаюць у спячку на зімоўку. Дзіцячыя пальчыкі раскладалі мяккі снег-вату ў чароўным лесе, а вочы малых гарэлі задавальненнем, што іх лялькі ажылі ў новых вобразах.

Зюзя, Ледзяны дзед, Гаюн з Гаёўкамі, лялечкі-дзеткі ў санях ператварылі падрыхтоўку да навагодніх святаў у сапраўдную прыгоду для выхаванцаў нашай групы. Яны не толькі далучыліся да беларускай фальклорнай спадчыны, зацікавіліся побытам сялян зімой, беларускім адзеннем, але і праявілі творчыя здольнасці і набылі ўменні па дзіцячым дызайне.

**Эдзіта БРАНЦЭВІЧ,**
**выхавальнік ясляў-сада №8 г. Смаргоні.**
**Фота аўтара.**

## Мы падвялі вынікі акцыі «Супергаспадар»

**У ёй удзельнічала пяць фотаздымкаў, якія агулам набралі 1352 галасы.**

Большасць чытачоў прагаласавала за здымак, які даслала **Валянціна Мамай**, – «Пухнатыя шчанюкі з Вілейкі». Фота набрала 59% галасоў. На здымку – шэсць шчанюкоў сенбернара. Яны нарадзіліся ў сабакі Ады, якую даглядае дачка Валянціны **Людміла Бяўзо**.

«Сёлета 11 мая ў сабакі маёй дачкі Людмілы Бяўзо нарадзіліся сем здаровых, пухнатых шчанюкоў пароды сенбернар.

Для злучкі іх маці – альпійскую сабаку Адэліну – вазілі ў Мазыр. Як і Ада, бацька шчанюкоў мае выдатную радаслоўную. Ён носіць ганаровую мянушку Назарэцянін Сігурд Вінцэнт.

**Адзе цяпер чатыры гады, на фота яе першынцы.**

Усяго нарадзіліся тры дзяўчынкі і чатыры хлопчыкі. Пяцярых прадалі. А Дамір і Дэні яшчэ чакаюць сваіх гаспадароў. Імёны для шчанюкоў абіралі ўсёй сям'ёй.

А яшчэ ў дачкі шыкоўны сад і агарод: яблыкаў, груш процьма. У мяне самой на Вілейшчыне ў вёсцы Вайдзені добра ўрадзілі бульба, морква, буракі...» – расказала пра сябе віляйчанка.

Здымак **Ганны Краўчонак** «Цукаты з гарбузоў, горкі перац, зімовы часнок з польскіх часоў» спадабаўся 20% чытачоў.

За фота **Наталлі Вяжэвіч** «Ежа з печы з бабуліным сакрэтам» прагаласавала 14%.

**Наіна Лычаўка** са сваёй «Лямпай з гарбуза» набрала 4% сімпатый. **Ірына Найдзіч** і яе «Персікі ў Маладзечне» – 3%.

Віншуем удзельнікаў! Пераможцаў мы хутка запросім у рэдакцыю.

Фота ўдзельнікаў глядзіце на сайце rh.by.

**Аддзел інфармацыі.**

## Астраўчанін перамог на адкрытым рэспубліканскім турніры па рукапашным баі

**АСТРАВЕЦ**

Спаборніцтвы праходзілі сярод супрацоўнікаў і курсантаў Магілёўскага інстытута МУС у рамках міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Спартыўна-баявыя адзінаборствы: традыцыі, рэальнасць, выклікі».

**Арцём Рагавенка** заняў першае месца ў вагавай катэгорыі 65 кілаграмаў.

Каб трапіць у фінал, курсант факультэта міліцыі правёў чатыры паядынкі. У апошнім хлопец адправіў саперніка ў накаўт. У фінале Арцём выйграў бой і заваяваў тытул пераможцы.

Нядаўна Арцём выступаў на Кубку Мінска па В'ет во дао – баявым мастацтве в'етнамскага народа, дзе заняў першае месца. А крыху больш за месяц Рагавенка ўдзельнічаў у чэмпіянаце краіны па гэтым відзе баявога мастацтва – і таксама стаў чэмпіёнам.

– У другім класе я пачаў займацца боксам ў трэнера Астравецкай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы **Аляксея Маргужа**, – расказвае пра сваё захапленне Арцём Рагавенка. – Але ў Магілёўскім інстытуце МУС, дзе я вучуся, няма магчымасці займацца боксам, але ёсць заняткі па рукапашным баі, таму я «пераключыўся» на гэта адзінаборства. Там жа пазнаёміўся з в'етнамскім баявым мастацтвам і захапіўся. Перамагаць, вядома, прыемна – гэта пераадоленне сваіх слабасцяў. Таму, па магчымасці, буду ўдзельнічаць у спаборніцтвах і надалей – гэта невымоўны адрэналін. А бокс я таксама не забываю: калі прыязджаю дадому, прыходжу ў залу.

**Марына МАЦКЕВІЧ,**
**паводле ostrovets.by.**

## Астравецкі «Саюз» абыграў смаргонскіх «Мядзведзяў», а «Ліда» – «Ашмяны»

**СМАРГОНЬ**
**АСТРАВЕЦ**
**АШМЯНЫ**

У чацвертым туры чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе 2018-2019 у Смаргоні сышліся астравецкі «Саюз» і «Мядзведзі». Матч прайшоў 15 снежня і завяршыўся з лікам 2:3 на карысць гасцей.

У гэты ж дзень на матчы ў Ашмянах «Ліда» абыграла «Ашмяны» з лікам 4:9.

**Паводле vk.com/ggff_2012.**

# Ляжаў у рэанімацыі ў майцы ўлюбёнага «Дынама»

## Заўзятар «зуброў» пра новага трэнера, гульню з хакеістамі і адносіны з іх жонкамі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Заўзятарам Ігар Бажко стаў чатыры гады таму, ад дня заснавання клуба «Дынама-Маладзечна», які збіраў яшчэ Дзмітры Краўчанка. Чытаў выданні, цікавіўся, каго набіраюць.**

– Краўчанка ўмее працаваць з моладдзю, матываваць. Але трэнер змяніўся, прыйшоў **Юры Файкоў**. Каманда стала іграць горш. Дагрукацца да трэнерскага штаба складана. Таму я падняў хвалю супраць Файкова, так з'явілася крычалка «Файкоў сыходзь». Пасля гутарыў з ім асабіста. Лічу, ён на мяне не крыўдзіцца, разумее, калі крытыкуюць. Нарэшце каманда зайграла. Магчыма, гульцы прыцерліся, сталі выконваць патрабаванні трэнера.

Каля 30 гадоў таму, яшчэ перад арміяй, Бажко сам гуляў у хакей, пераважна – у Маладзечне. Напрыклад, за «Залатую шайбу».

Раней гэтыя спаборніцтвы былі нашмат менш арганізаванымі. У Маладзечне збіралі моладзь, трэнер адбіраў каманду, даваў экіпіроўку, талоны на харчаванне. І адпраўляў гуляць на «каробку», што знаходзіцца на стадыёне ДЮСШ. Увесь час гулялі на адкрытым паветры. Так прайшло пару гадоў.

– Пасля распаду СССР якасныя гульцы засталіся, савецкая школа таксама. Ездзіў на гульні ў мінскі Палац спорту. Затым стаў заўзець за мінскае «Дынама» па тэлевізары. Хацелася, што называецца, бачыць «вялікі хакей». Калі «бела-сінія» з'явіліся ў Маладзечне, даведаўся, што менавіта Краўчанка будзе трэніраваць каманду. Я сачыў за яго кар'ерай, пачаў цікавіцца камандай.

### Заўзятары разам ходзяць нават у тэатр

Цяпер заўзятар у хакей не гуляе, але яшчэ два гады таму давялося апынуцца на арэне з хакеістамі з «бела-сініх». Пасля кожнага сезона каманда праводзіць паказальны матч для заўзятараў, на якім тыя могуць згуляць з «зубрамі». Каманду падзялілі на белых і сініх.

– Гуляць з прафесіяналамі – не перадаць словамі. Яны гулялі больш на нас, стараліся аддаваць перадачы. Прыемна быць на адным лёдзе з такімі хлопцамі. Будуць падобныя матчы, пайду абавязкова.

Заўзятары збіраюцца не толькі падчас матчаў. І дома ў некага, і на выездах, нават у тэатр разам могуць схадзіць. Часам збіраюцца і ідуць катацца на каньках.

– Бывае такое, прыходзім, а на арэне ці **Герман Несцераў**, ці **Вячаслаў Грэцкі** з сем'ямі (заўвага «РГ»: нападаючыя «Дынама-Маладзечна»). Размаўляем за жыццё, катаемся.

### Часам размаўляе з жонкамі гульцоў

Адносіны з гульцамі ў Бажко добрыя. Калі каманда прайграе, абмяркоўваюць злабадзённыя пытанні, у іншым выпадку могуць і пажартаваць. Гутарыць з жонкамі гульцоў.

– Могуць спакойна патэлефанаваць, калі ёсць якія пытанні – напружанні з трэнерам, у гульні. Мяркую, хлопцы не раўнуюць, мы ж з іх жонкамі не сустракаемся. Гульцы часам нам не могуць сказаць тое, што кажуць сваім палавінкам. А з імі дзяліцца прасцей, чым баліць. Мы заўзеем за каманду, спрабуем даведацца праўдзе ўсё.

На думку Бажко, тое, што «Дынама» перастала быць фарм-клубам мінскіх «зуброў» – значны плюс. Зніклі «ліфцёры» – гульцы, якія пераходзілі з асноўнага клуба ў фарм-клуб. У хакеістаў з'явілася больш часу на спакойныя трэніроўкі, іх ніхто не торгае. «Хлопцы разумеюць, што яны – хакейны клуб «Дынама». Але ў гульні «зуброў» не хапае стабільнасці. Каманда можа выдаць класны матч, пасля якога ўсе будуць стаяць на вушах. А потым нечакана прайграць.

> Даведка «РГ»: Фарм-клуб – каманда, якая з'яўляецца рэзервовай для асноўнай каманды.

### Падчас хакея віншаваў са святам

Звычайна ў перапынках паміж перыядамі Бажко камунікуе з іншымі заўзятарамі, дзеліцца думкамі. Але аднойчы давялося выйсці з арэны. Летась у Дзень Святога Валянціна вырашыў павіншаваць жонку. Набыў жоўтыя ружы – яе любімыя кветкі, – папярэдзіў групу падтрымкі. Дынамаўскі маскот Зубр вывеў **Святлану** ў сярэдзіну хола. Кожная з дзяўчат з групы падтрымкі ўручыла ёй па ружы і сказала камплімент.

– Самая вялікая праблема – вывесці жонку ў хол, дзе ў перапынках праводзяць гульні. Звычайна яна адмаўляецца туды ісці. Дапамагла знаёмая, якая выцягнула Свету. Стаіць жонка і не разумее, што адбываецца. Калі апошняя дзяўчына падарыла кветку, я выйшаў з мікрафонам і сказаў Свеце, што люблю яе. Што мы 27 гадоў разам і што яна – чумавая бабуля, – смяецца заўзятар.

У гэты дзень клуб падарыў пары джэрсі з нумарам 66 – сімвалічную майку, мяркуе Бажко. Пад гэтым нумарам гуляў **Мацвей Бажко** – цёзка па прозвішчы заўзятара.

> Даведка «РГ»: Джэрсі – спецыяльныя хакейныя майкі, якія вызначаюць прыналежнасць гульцоў да той ці іншай каманды, а таксама адрозніваюць іх у працэсе дынамічнай і хуткай гульні.

– Пішу Мацвею адразу, пытаюся, пазнаеш? Адказвае, канешне, мая джэрсі. Не, смяюся, ужо мая. У белай езджу на выязныя матчы, у сіняй хаджу на дамашнія. Нават калі ў рэанімацыі з інфарктам ляжаў, быў у майцы «Дынама».

### Цешча з цесцем прыходзілі на хакей

Сям'я Бажко заўсёды была спартыўная. Жонка, як і ён, любіць пакатацца на каньках. Малодшы сын, **Павел**, кіруе школай сучасных танцаў у Маладзечне. Яго і старэйшага сына, **Аляксандра**, я сам ставіў на канькі, кажа, праз пару трэніровак яны ўжо ездзілі. Пяцігадовай унучцы **Вікторыі** таксама аднойчы ўжо давялося выйсці на лёд – спадабалася.

– Падчас катання кажу, Віка, можа, пасядзім, адпачнём. У адказ чую ўпэўненае «не». Нават цешча з цесцем прыходзілі з намі на гульні.

У заўзятара з жонкай бываюць і рознагалоссі наконт хакея.

– Яна глядзіць на гульню больш эмацыйна. Неяк на выездзе з «Юнацтвам» перад плэй-оф гарым пасля першага перыяду. Жонка пачынае лаяцца моцнымі словамі. Стаў супакойваць, галоўнае, каб хлопцы перад плэй-оф не зламаліся. Бывае і наадварот. Я праяўляю сімпатыі да гульні пэўных хакеістаў, а яны пачынаюць «касячыць». Тады ўжо жонка кажа: «Ну што, твой жа, каб быў нехта іншы, не абараняў бы яго».

Але матчы з жонкай абавязкова абмяркоўваюць. Нават калі Святлана на працы, яна тэлефануе і пытаецца, як згулялі «зубры».

Акрамя хакея, падтрымліваюць сучасныя танцы – хіп-хоп, хаус.

**Таццяна КАСЬЯН.**




Фота забяспечанае Ігарам БАЖКО.

Злева направа: Святлана, Віка і Ігар Бажко.




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Самая распаўсюджаная ядомая рыба ў свеце.
4. Драўляны, жалезны або жалезабетонны брус, які ўмацаваны канцамі ў дзве процілеглыя сцяны або ўстоі і служыць падтрымкай насцілу.
6. Грашовая аперацыя, якая заключаецца ў тым, што некаторая сума грошай бярэцца ў доўг на пэўных умовах звароту.
10. Той, хто не хоча працаваць, гультай.
11. Беларускі горад, першая згадка пра які звязаная з тым, што варажскі конунг Рурык аддаў умацаванае паселішча аднаму са сваіх ярлаў.
13. Прастора для абмену навінамі ў Старажытным Рыме.
16. Варэнне з фруктаў або ягад у выглядзе жэлепадобнай масы.
17. Невялікія прадметы; дробныя рэчы.
19. Першая беларуская нацыянальная палітычная партыя.
20. Сакрэтнае ўмоўнае слова або фраза для апазнавання сваіх людзей на вайсковай службе або ў канспіратыўных арганізацыях.
21. Сталіца княства Ліхтэнштэйн.
23. Плітка, цаглінка з якога-небудзь спрасаванага матэрыялу.
25. Калі яны прыходзілі ў дом, то спачатку не казалі аб мэце. Прасілі дапамагчы ў адной просьбе, і, калі гаспадары пагаджаліся, ставілі на стол закуску і алкаголь.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Адзін з трох родаў мастацкай літаратуры.
3. Аднойчы садаводы заўважылі, што самыя дарагія грыбы, труфелі, часта растуць у сувязі менавіта з гэтым дрэвам.
5. Паказная легкадумная смеласць.
7. Згода; права зрабіць, выканаць што-небудзь.
8. У гэтай краіне ёсць традыцыя. 29 лютага жанчына можа зрабіць прапанову мужчыну. І калі той адмовіцца, то павінны выплаціць штраф.
9. Набраная або аддрукаваная старонка газеты, кнігі, часопіса.
11. Частка будынка, у якой памяшканні знаходзяцца на адным узроўні.
12. Жалезная дугападобная пласціна, якая прыбіваецца пад конскія капыты для засцярогі іх ад пашкоджання, а таксама для таго, каб пазбегнуць слізгацення.
14. Чалавек з племені, якое знаходзіцца на ступені першабытнай культуры.
15. Вонкавая абалонка плода, семя.
17. Пісьмовае або вуснае пагадненне, умова аб узаемных абавязацельствах.
18. Становішча, пры якім ніхто і нішто не пагражае.
22. Лісты раслін.
23. Назва некаторых устаноў, кантор.
24. Дамашні слуга пры панах; слуга ў гасцініцы, рэстаране.
26. Гісторык і археолаг Міхась Чарняўскі: «Чалавек без памяці – … . Гэтак жа хворы і народ, які не ведае свайго мінулага».

## Адказы на крыжаванку з №50

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Сакратар. 5. Какос. 6. Сезон. 8. Вінаград. 10. Ягайла. 14. Лялька. 15. Кураць. 16. Зацірка. 18. Фасон. 21. Снег. 22. Квадрат. 23. Збіцень. 24. Васіліса.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Сажа. 3. Пагарда. 4. Цвыркун. 7. Змяя. 8. Вядро. 9. Сіла. 11. Колер. 12. Цыкл. 13. Мандарын. 15. Каляндар. 17. Сведка. 19. Ціск. 20. Цеста. 22. Крызіс. 25. Цацка.

## ● ГАРАСКОП 21-27 СНЕЖНЯ


**АВЕН.** Адносіны з блізкімі ў вас складваюцца не проста. Вы, як ніколі, яўна адчуеце праблему непаразумення паміж рознымі пакаленнямі. Але вось жа дзіўна, што спрэчкі не разрозняць, а толькі ўмацуюць сям'ю.


**ЦЯЛЕЦ.** Вам будзе спадарожнічаць прарыў у справах і пэўны поспех. Вы стварылі спрыяльную атмасферу і можаце адчуваць сябе ўладаром сітуацыі, але працягвайце рухацца далей, развівацца.


**БЛІЗНЯТЫ.** У вас можа моцна разгуляцца фантазія, і калі вы сябе своечасова не спыніце, то проста адарвяцеся ад рэальнасці. Прызямляцца потым будзе не прыемна. Калі вы ўсё ж зберацё свае думкі ў кучу і вызначыцеся з тым, што хочаце ў першую, а што ў другую чаргу, тады вас чакае пэўны поспех.


**РАК.** Вам спадарожнічае поспех. Вы зможаце дасягнуць некаторага стану, які прынята называць шчасцем. Гэты час добра праводзіць у месцах, далёкіх ад дому, каб атрымаць новыя ўражанні, новыя веды і зведаць эмоцыі, якіх раней не зведвалі.


**ЛЕЎ.** Перыяд будзе звязаны з вялікай колькасцю хваляванняў і клопатаў. Аднак адносіны паміж сваякамі, каханым будуць вельмі добрыя, вас будуць падтрымліваць, заспакойваць. Гэта дасць новыя сілы.


**ДЗЕВА.** Не давайце волю страхам і забабонам, а то яны могуць сур'ёзна атруціць ваша жыццё. Не бярыце на сябе чужыя праблемы і нічога не адкладвайце на потым.


**ШАЛІ.** Вы адчуеце сябе шчаслівым чалавекам. І гэта не абавязкова павінна быць звязана з нейкімі матэрыяльнымі ці іншымі вынікамі, з уладаннем нечым. Шчасце яно ёсць само па сабе. Канкрэтна ў вашым выпадку, вы можаце знайсці яго ў зносінах з іншымі людзьмі, разумовай і творчай дзейнасці, а таксама ў падарожжах.


**СКАРПІЁН.** Гэтыя дні могуць вызначыць ваш рух на ўвесь наступны год ці хаця б на бліжэйшыя некалькі месяцаў. Вы спазнаеце многія ўласныя таямніцы, разберацеся ў сваіх жаданнях, навучыцеся дасягаць сваіх мэтаў і іх выразна вызначаць. Але самае галоўнае, вы зможаце рухацца па шляху, наканаваным лёсам, жыць у гармоніі не толькі з сабой і светам. А гэта прадракае вялікі поспех.


**СТРАЛЕЦ.** Жывіце цяпер, радуйцеся ўсяму таму добраму, што прыносіць кожны дзень, і перастаньце думаць пра праблемы заўтрашняга дня.


**КАЗЯРОГ.** Не дражніце Фартуну і старайцеся трымаць сябе ў руках. Крыўдлівасць і амбіцыйнасць цяпер не прынясуць вам карысці, пажынаць плады сваёй працы вам давядзецца трохі пазней.


**ВАДАЛЕЙ.** Як вы праведзяце гэтыя дні цалкам і поўнасцю залежыць ад вас, а дакладней, ад таго, здзейсніце вы якое-небудзь глупства, ці, наадварот, паступіце мудра. Праявіце вытрымку і цярпенне, па меры магчымасці не рабіце лішніх крокаў і якіх-небудзь неабдуманых рашэнняў.


**РЫБЫ.** Паспрабуйце трымаць раўнавагу і захаваць спакой. Будзе шмат розных падзей, якія могуць пахіснуць вас, не выключаныя перамены ў асабістым жыцці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | | | 8 | | 3 | 5 |
| | 8 | 9 | | | 5 | | | 2 |
| | 3 | | 2 | | | | | |
| | 4 | | 8 | | 3 | | 9 | |
| 9 | | | 4 | 1 | | | | |
| 8 | | | | | 6 | | | |
| 3 | | | 1 | | 4 | 7 | | |
| | 6 | 8 | | | 7 | | 1 | |
| 7 | 5 | | | | 9 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## Маладзечанцаў запрашаюць на калядны Спеўны сход

Сход правядуць 26 снежня разам з этнаграфічным клубам «Кола». Вядоўца – **Воля Трубач**.

Спяваць калядныя песні будуць па адрасе: Лібава-Роменская, 71, Цэнтралізаваная клубная сістэма.

Пачатак – у 18:30.

Уваход вольны.

**Аддзел інфармацыі.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

- Анёл з паветранымі крыльцамі, касманаўт у скафандры з лічбай «1961», распісныя шкляныя шары, з цяжкасцю здабытыя ў часы дэфіцыту. Мы распыталі ўраджэнцаў нашага рэгіёна пра тое, якую ёлачную цацку з дзяцінства яны памятаюць.



# На галоўнай ёлцы ў Маладзечне «крамлёўскую» зорку замянілі на Віфліемскую

**На плошчы Старое Места такая ж зорка.**

18 снежня на навагодняй ёлцы ў Маладзечне з'явілася Віфліемская зорка.

Пра гэта «РГ» расказаў прадстаўнік праваабарончай арганізацыі «Беларускі хельсінкі камітэт» па Маладзечанскім раёне, праваабаронца **Эдуард Баланчук**.

– Пра тое, што на ялінцы на Цэнтральнай плошчы знаходзіцца пяціканцовая зорка, мне расказаў краязнаўца **Лявон Цімохін**. 17 снежня я схадзіў у райвыканкам, каб рубінавую «крамлёўскую» зорку прыбралі. Пяціканцовая зорка – не хрысціянскі сімвал, парушае правы вернікаў, якія святкуюць Раство. Замест іх цяпер Віфліемская зорка. Хацеў падзякаваць намесніку старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Алесі Лукоўскай** за тое, што пачула нас.

Баланчук заўважыў, што на плошчы Старое Места таксама цяпер Віфліемская зорка.

**Таццяна КАСЬЯН.**

Фота забяспечанае Эдуардам БАЛАНЧУКОМ.

**Так выглядае ёлка на Цэнтральнай плошчы цяпер.**

## Уваходзьце ў Новы год са старымі сябрамі

### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 22 снежня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 4-5 м/с

| Горад | Ноччу | Днём | Надвор'е |
|---|---|---|---|
| Астравец | +1 | 0 | Хмарна |
| Мядзел | +1 | +1 | Хмарна |
| Вілейка | +1 | 0 | Хмарна |
| Смаргонь | +1 | 0 | Хмарна |
| Ашмяны | +1 | 0 | Хмарна |
| Маладзечна | +1 | 0 | Хмарна |
| Валожын | +1 | 0 | Хмарна |

Сонца: Усход 9.34, Захад 16.51, Даўжыня дня 6.11

Месяц: Усход 16.55, Захад 08.47, Поўня

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -25,8°C у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +6,6°C у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,4 мм у 2015 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Які Новы год быў для вас самым захапляльным?

**Дыяна Карташэвіч, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Запомнілася сустрэча 2016 года, я была на чацвертым месяцы цяжарнасці. Адзначалі на беразе Вілейскага вадасховішча, на дачы. Смажылі шашлыкі, спявалі караоке. А раніцай дасталі шэзлонгі, паставілі на беразе і пілі каву. І нас не бянтэжыла, што быў мароз.

**Дзмітры Сасім, рабочы метрапалітэна, Маладзечна:**

– Самы лепшы Новы год – гэта свята ў коле сям'і. З каханай жонкай і двума сыночкамі. Нам учацвярых вельмі весела. Асабліва калі дзеці знаходзяць пад ёлкай падарункі ад Дзеда Мароза. Гэта такое задавальненне і шчасце назіраць, як яны радуюцца.

**Аляксей Толак, інжынер, Мядзел:**

– У мяне дзень нараджэння 4 студзеня. Няяк адзначаў яго і Новы год у адзіноце. Але было весела, запомнілася на ўсё жыццё. Атрымалася, што наступны год гэтак жа буду адзначаць.

**Мікалай Шчарбіцкі, аддзелачнік, Маладзечна:**

– Для мяне гэта свята нясе не толькі радасць, але і новыя магчымасці і пачынанні. Летась адзначаў Новы год у коле сям'і, свята прынесла ўсім шчасце. Штогод мы ўпрыгожваем ёлку, дорым адзін аднаму падарункі. Сам я ў дзяцінстве верыў у Дзеда Мароза.

**Вера Краснамовец, гаспадыня, Смаргонь:**

– Калі дачка была зусім маленькая, любіла яе прыемна здзіўіць. Пісалі разам лісты Дзеду Марозу, апраналі касцюмы і хадзілі на ёлку. Кожны год адзначаю свята ў розных месцах: то з сябрамі, то ў сваякоў, часам дома. Лічу, Новы год – сямейнае свята, лепш пачынаць адзначаць яго з блізкімі.

**Галіна Мінкевіч, настаўнік, Смаргонь:**

– Самым запамінальным было святкаванне Новага 1998 года. У новы дом, моладзевы ЖБК, засяляліся маладыя сем'і ва ўзросце да 30 год. Усе былі задаволеныя, што атрымалі свае жыллё. Новы год адзначалі ўсім пад'ездам.

**Юлія Ярашонак, вучаніца, Маладзечна:**

– Пару год таму мы ўпершыню дачакаліся 12 гадзін ночы. З сястрой Варварай танцавалі. А потым мае аднакласнікі пачалі віншаваць адна аднаго з Новым годам у гутарцы «УКантанце».

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№51 (1234) 21.12.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1329. Падпісана ў друк у 9.00 20.12.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.